Др. Я. СТАНКЕВІЧ.

# ЗЬМЕНА ГРАМАТЫКІ БЕЛАРУСКАГА ЯЗЫКА Ў БСРР.



═ Цана 15 грашоў. ═

ВЫДАНЬНЕ АЎТАРА.

ВІЛЬНЯ — 1936

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА – ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА "АДРАДЖЭНЬНЕ" МЕНСК 1991 г

*выданьне 2-е заказ 9 наклад 1000*

Друк. І. Бяўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.

# Зьмена граматыкі беларускага языка ў БСРР.

Як толькі Беларусь лучыла (трапіла, папала) пад Маскоўшчыну, дык Маскалі заўсёды Беларусаў перасьледавалі. Перасьледаваў раней царскі ўрад, а з 1918 году перасьлядуюць Беларусаў маскоўскія комуністыя. У 1923—1928 г. г. у БСРР (Беларускай Социялістычнай Радавай Рэспубліццы) была беларускаму жыцьцю некаторая палёгка. Але пачынаючы з канца 1928 г. ў БСРР і РСФСР (Расейскай Социялістычнай Фэдэрацыйнай Савецкай Рэспубліццы, да каторай прылучана ўсходняя траціна Беларусі) настае ўзноў надта вялікае перасьледаваньне Беларусаў Маскалямі. Зьмена дэкрэтам 28.VIII.1933 г. практычнай граматыкі ды правапісу беларускага языка ў БСРР ёсьць бясумлеву кульмінацыйным пунктам у гэтым перасьледаваньні. Дык трэба да гэтае зьмены прыглядзіцца.

* * *

Дагэтулешняя граматыка практычная ды правапіс языка беларускага, укладзеныя ў 1918 г. Б. Тарашкевічам, як ведама, не дасканальныя і патрабуюць ладных зьменаў [1]).

Дзеля таго пытаньням рэформы правапісу і практычнай граматыкі беларускага языка занялася Беларуская Навуковая Конфэрэнца, што была ў Менску ў 1926 г. Працы гэнае Конфэрэнцы, нягледзячы на нямала заганаў у яе складзе, былі добрыя [2]). Можна сьмела сказаць, што падобныя працы, ведзеныя далей, прывялі-б да рэзультатаў зусім здаваляючых. Але з Конфэрэнцы ня былі здаволены дзейнікі маскоўскія. А цяперака гэныя дзейнікі завуць Навуковую Конфэрэнцу ў Менску 1926 г. „зьлётам беларускае контрэволюцы", што быццам „выпаўняла загады фашыстых" (Александровіч у „*Літаратура й Мастацтва*" № 34 з 1933 г.).

28.VI.1933 г. быў неўспадзеўкі абешчаны (абвешчаны) ў менскім аргане КПБ „*Зьвязьдзе*" „Проект рэформы беларускага правапісу", апрацаваны Языкаведным Інстытутам Беларускае Акадэміі Навукаў у Менску.

Ведама, што ад 1928 г. ажно дагэтуль вядзецца ў БСРР перасьледаваньне сьвядомых Беларусаў, каторых або садзяць у турмы, або ссылаюць на Салоўкі, на Паўночны Край, на Ўзволжа, на Ўрал, на

[1]) Заганы гэнае граматыкі й правапісу былі драбязна разгледжаны ў рэдагаваным мною ў 1930—31 г. г. месячніку „Родная Мова".

[2]) Працы Конфэрэнцы я разгледзіў на балонках часапісу „Родныя Гоні", Вільня 1927.

Сібір. Дзеля таго ў установах БСРР з выдатных Беларусаў нямашака цяпер блізу нікагусенькі. Асталіся на становішчах адно тыя, у вадносінах да каторых можна быць пэўным, што не патрапяць бараніцца нават ад найбалей антыбеларускіх загадаў маскоўскае экспозытуры ў Менску.

У Беларускай Акадэміі Навукаў з пасярод філёлёгаў і людзёў балей меней працуючых у галіне беларускага языка нікога па 1928 г. не асталося. П. Бузук (Украінец) апынуўся ў турме, Н. Дурнаво (Маскаль) пасьпяшыўся выехаць у Маскву; належачы да Акадэміі адзіны філёлёг Беларус, С. Некрашэвіч, быў адзін із першых арыштаваны й засланы. Гэткая-ж доля стрэла Яз. Лёсіка і іншых. З беларускіх філёлёгаў, што аставаліся на волі, жыў у Маскве П. Растаргуеў, але яго да ўчасьця ў вапрацаваньню проекту рэформы беларускае граматыкі не папрасілі...

Як давёдуемся з выданьня *„Беларуская Акадэмія Навук на парозе другое пяцігодкі"* (Менск 1933) Інстытут меў свой проект рэформы ўжо ў 1932 г. Дзеля разгляду гэтага проекту мела быць на пачатку 1933 г. ў Менску ўсебеларуская конфэрэнцэ. Але гэты плян адкінулі відавочна з прычыны спраціўленьня маскоўскае ўлады. У гэтым пераканаць ўмацовуе нас і тое, што, абяшчаючы (абвяшчаючы) свой проект рэформы, Языкаведны Інстытут не паклікаўся на пярэднія свае працы прыгатавальныя. Дык напэўна апошні проект Інстытуту быў проектам зусім новым, укладзеным пад завойстраным націскам маскоўскіх дзейнікаў.

У канцы свайго проекту Інстытут зьвярнуўся да асобаў, што цікавяцца рэформаю беларускае граматыкі, з пропозыцай прысылаць „свае пагляды, зацемкі і да г. п.". Напэўна ня мала ахвотнікаў адгукнулася на гэтую пропозыцу, але з іх пaглядаў і пад. нічагусенькі дагэтуль не надрукавалі.

28.VIII. 33 г. быў надрукаваны, так сама ў менскай *„Зьвязьдзе"*, дэкрэт Рады Народных Камісароў БСРР, уводзячы зьмену практычнае граматыкі ды правапісу беларускага языка. Дэкрэт гэны балей як у $^2/_3$ розьніцца ад проекту Языкаведнага Інстытуту з 28.VI. 33 г., уводзячы прыблізна на гэтульки балей шкодных зьменаў у беларускую граматыку практычную ды правапіс. Дзеля такіх вялікіх розьніцаў паміж проектам Інстытуту і дэкрэтам РНК, проект Інстытуту можна ўважаць за прыпадкавае выступленьне проці таго, што за 2 месяцы просьле яго зрабіў дэкрэт.

Дзеля менаванага аўтары дэкрэту тым балей павінны былі парупіцца, каб паведаміць беларускае грамадзянства аб рэформе, каторую яны маніліся правесьці. Але сталася наадварот: насяленьню Радавае Беларусі рэформа была неспадзеўкаю. Проект рэформы быў прыгатаваны патайно ад Беларусаў.

* * *

Якія-ж афіцыяльныя мотывы зьменаў у граматыцы беларускага языка, праведзеных дэкрэтам 28.VIII. 1933 г.? Подле тэксту дэкрэту ды надрукаваных у сувязі з ім артыкулаў і прамоваў мотывы гэныя гэткія:



1. — дагэтулешні правапіс беларускага языка, установлены беларускімі „нацдэмамі" („нацыянальнымі дэмократамі", гэтак ахрысьцілі маскоўскія бальшавікі ўсіх сьвядомых і балей меней дзейных Беларусаў), „стварыў штучны бар'ер паміж беларускім і расейскім языкамі".

2. — рэформа аддаляе польскія ўплывы, каторымі беларускі язык быццам быў запсаваны дзеля лягчэйшай абароны яго ад уплыву языка расейскага.

3. — рэформа аддаляе з беларускага языка архаізмы, нэолёгізмы, й вульгарызмы, каторыя быццам у яго ўвялі тыя-ж „нацыяналістыя".

4. — рэформа мае „станаўко палягчыць масам навучэньне беларускага пісьменства".

Апрача мотыву апошняга, дыдактычнага, усе іншыя можна зьвесьці да агульнага значэньніка: мэтаю рэформы ёсьць адданеньне „штучнага" бар'еру паміж беларускім і расейскім языкамі.

Разгляд мотыву першага й чацьвертага робіцца ніжэй пры разборы рэформы з гледзішча граматычнага. Гэтта адкажу на мотыў другі й трэйці.

Закід полёнізацы беларускага языка „нацдэмамі" не памешчаны ў самым дэкрэце, але яго вельмі падчыркавала прэса ў часе абароны й пропаганды рэформы ў БСРР. Відавочна тут ёсьць жаданьне выкарыстаць мамэнт пачуцьцёвы.

Як-жа запраўды прадстаўляецца справа гэтага закіду?

Беларускі язык знае некаторыя ўплывы польскія, большыя або меншыя ў залежнасьці ад мясцовасьці. Ёсьць мясцовасьці на прастору Беларусі, у каторых беларускі язык ані ня мае ўплыву польскага. Невялічкі ё ўплыў польскага языка на беларускі язык літаратурны, значыцца на язык супольны ўсім Беларусам. Агранічваецца ён вылучна да словаў. Дык не магла рэформа граматыкі й правапісу аддаліць таго, чаго ў іх ня было. А ня было дзеля таго, што адно ў мала якіх мясцовасьцех беларускіх адбіваецца на граматыцы беларускага языка ўплыў граматыкі польскай. Дый аўтар першай практычнай граматыкі беларускай ды правапісу, Б. Тарашкевіч, як гадунец пецярбурскага ўнівэрсытэту, быў далёкі ад уплываў польскіх.

Таксама ня выдзержуе крытыкі закід архаізацы беларускага языка. Паміж даўнейшым беларускім языком літаратурным і цяперашнім была вялікая прорва ў XVIII в., каторая прычыніла, што цяперашні беларускі язык літаратурны паўстаў вылучна з беларускага языка народнага. Нястача-ж інтэлігенцы з навукаю філёлёгічнаю зрабіла немагчымым пазнаваньне старога беларускага языка літаратурнага і сіляньне (чэрпаньне) з гэтага багатага жарала. Дзеля таго цяперашні беларускі язык літаратурны, як ніякі іншы, ня мае ніякіх архаізмаў.

Няма жаднага языка літаратурнага без нэолёгізмаў. Ёсьць яны такжа ў колькасьці невялічкай у беларускім языцэ літаратурным. Як усюды, так сама ў Беларусаў, лучаюцца новаўтвароныя словы, каторыя немагчыма прыняць, але об'ектывізм вымагае сконстатаваць, што гэткія словы й не прыняліся. Ды што новаўтвароныя словы маюць супольнага із зьменаю граматыкі й правапісу?

Што да „вульгарызмаў", дык аб іх маглі-б штось сказаць адзіне людзі з языковым пачуцьцём беларускім. Дый вульгарызмы ў кажным

языццэ магчымы толькі ў слоўніку. Але маскоўскія „рэформатары" гатовы ўвесь беларускі язык лічыць вульгарызмам (прыкл. лічаць вульгарызмам *г*, *гэ* замест чужога *ф* у словах як *гунт*, *хварба*).

Дзеля таго што разгляданая рэформа не знаходзіць апраўданьня ў граматычнай запраўднасьці беларускага языка, дык ейныя абароньнікі зусім не ўспамінаюць аб граматычных асаблівасьцях ягоных. Добра яшчэ, калі кажуць аб полёнізацы, архаізмах і нэолёгізмах, бо гэта прынамся адносіцца да мовы. Але найчасьцей пры абароне рэформы кажацца аб рэволюцыйных асягненьнях, індустрыялізацы, калгасах, інтэрнацыяналізьме і інш. Гэта выразнае жаданьне ськіваваць дыскусію на іншую дарогу.

* * *

Ініцыятарам разгляданай „рэформы" трудна было знайсьці прыхільнікаў яе сярод беларускіх дзейнікаў навет просьле рупатлівай і непераборлівай у спосабах прыгатовы грунту. Мы бачым, што, нягледзячы на усё, навет Языкаведны Інстытут БАН у сваім проекце станаўко выказаўся проці гатаванай рэформы. Па выданьню дэкрэту абурылася ім усё грамадзянства радавае Беларусі. Аб адносінах гэтага грамадзянства да рэформы даведуемся з афіцыяльнай прэсы БСРР. Ведама, што афіцыяльныя дзейнікі не зацікаўлены ў інформаваньню аб ходаньню проці дэкрэтаваных імі граматычных зьменаў. Кажуць аб гэтым адно толькі, колькі канечне трэба дзеля ходаньня з праціўнікамі рэформы. Але й гэтага даволі, каб добра даведацца як беларускае грамадзянства БСРР бароніцца ад накіненай яму „рэформы".

Наўперад выступаюць проці рэформы беларускія комуністыя як маючыя мінімум свабоды, калі наагул можа быць мова аб грамадзянскай свабодзе ў варунках комуністычнага ладу.

Дэкрэт аб рэформе абавязуе з 16.IX.33 г. Гэнага-ж дня маўчачая дагэнуль у гэтай справе радавая прэса выступіла із шалёнымі нападамі на праціўнікаў рэформы. Гэтак пр. „*Звязда*" гэнага дня ў варт. „*Новы беларускі правапіс*" піша:

„Гэта ня прыпадак, што сям-там чуваць галасы проці гэтае гістарычнае пастановы. Скуль, з якога табару яны йдуць? З табару дагэтуль яшчэ нявыкрытых астачаў нацдэмаўскіх, што схавалі сваё запраўднае аблічча. З табару варагоў партыі, варагоў нацыянальнае політыкі Леніна. З табару элементаў, захопленых жаданьням рэваншу, што ўзноў прабуе ўзьняць прадажны сьцяг нацыянальнага дэмократызму беларускага, сьцяг чыста скомпромітаваны й зганьбены плямаю зрады".

„Новы правапіс ё аднэй із конкрэтных праяваў таго ходаньня, што вядзе партыя за будаваньне культуры нацыянальнае — з боку хвормы — і соцыялістычнае — з боку зьместу. Нажаль, гэтае праўды яшчэ не разумеюць некаторыя сябры. Наадварот, у вапошнім часе відаць тэндэнцы сярод асобных працоўнікаў, ськіваваныя да тушаваньня абмылаў і скрыўленьнеў, што былі й ё ў Беларускай Акадэміі Навук, асабліва ў Языкаведным Інстытуце, дзе астачы нацдэмаў прабавалі й прабуюць пад рознымі выглядамі шырыць далей свае ідэі".



„Партыя тры гады назад разьбіла й выгнала з Акадэміі Навук Лёсікаў, Ластоўскіх, Некрашэвічаў, Цьвікевічаў. Дык хто-ж даў права людзём, седзячым у Языкаведным Інстытуце, так сьцерагчы іхнюю спадчыну? Як магло стацца, каб прэзыдыюм Акадэміі Навук ані партыйная ячэя не зацемілі гэтага і ня ўжылі спосабаў дзеля ачышчэньня Языкаведнага Інстытуту ад клясава чужых элементаў ды іх спадчыны?"

„Комуністыя — працоўнікі БАН — замест энэргічнага ходаньня з нацдэмамі, замест бязьлітаснай крытыкі абмылаў партыйных і беспартыйных працоўнікаў, сталі на дарогу тушаваньня абмылаў. Трэба зацеміць, што літаратурная грамадзкасьць, наўперад пісьменьнікі комуністыя, яшчэ слабое прыймаюць учасьце ў ходаньню з працягам кірунку нацдэмаў у языкаведзе".

Значыцца, даведуемся, што ё й такія комуністыя - Беларусы, няпрыязна настроеныя да „рэформы", каторых пакуль што з няведамых нам увагаў маскоўскія комуністыя ня хочуць аддаляць з паміж сваіх сяброў. З другога аднак боку артыкул пагражае суровымі рэпрэсямі варагом рэформы, наўперад Языкаведнаму Інстытуту БАН за яго проект рэформы беларускае граматыкі й правапісу, праціўны зычэньнем маскоўскіх дзейнікаў.

З іншых выступленьнеў абароньнікаў рэформы даведуемся, што „астачы контррэволюцыйных нацыянальных дэмократаў унутры нашага краю (зн. БСРР—Я. Ст.) ўзьнялі дзікое галашэньне проці спрашчэньня правапісу (Гурскі „*Літаратура й Мастацтва*" № 34 з 33 г.).

„Недабітая нацдэмаўшчына ў нас злосна наракае на рэформу правапісу" чытаем там-жа ў варт. К. Чорнага.

„У вапошнім часе нацыянальныя фашыстыя ў нас (г. зн. ў БСРР) і заграніцаю ўзьнялі выцьцё з прычыны спрашчэньня беларускага правапісу" (з прамовы Бранштэйна на т. зв. зборцы літаратараў 11.XII.33 г.).

„Нацыянальныя дэмократы ў нас і нацыянальныя фашыстыя заграніцаю паднялі крык быццам у Радавай Беларусі ністожаць нацыянальную культуру беларускую" (з прамовы Александровіча на тэй-жа зборцы).

Цікава паказаць прозьвішчы прынамся некаторых пісьменьнікаў беларускіх БСРР, перасьледаваных за ходаньне з рэформаю. Подле менскае прэсы будуць тут паміж іншымі Калуга, Таўбін („гэты паўпрэд буржуазнае інтэлігенцы кулацка - нацыяналістычнае"), Хадыка, Віцьбіч. Таксама „Контррэволюцыйныя выбегі нацдэмаўскія ў галіне літаратуры робяць Сідарэнка-Пеначкін, Баранавых, Нікановіч, Лужанін" („*Літаратура й Мастацтва*" № 34 з 1933 г.).

Цэлае вялікае таварыства літаратурнае „Узвышша" прызнана нацдэмаўскім: „Успомнена арганізатараў контррэволюцыйнае ячэі нацдэмаўскае, т. зв. груду літаратурнага „Узвышша": Дубоўку, Пушчу, Бабарыку, што ў краснай літаратуры рабілі пропаганду тэорыі душы беларускае ды хадаліся разам із Лёсікам-Ластоўскім за „самабытнасьць беларускага языка" (там-жа).

Маскоўскія комуністыя ўшчалі войстрае перасьледаваньне праціўнікаў рэформы ў БСРР. У часе „чысткі" ў 1933 г. тысячам іх аднялі сяброўства ў партыі. Ня мала іх арыштавалі (Капаевіч, Бандар, Мацюкевіч і інш.) і заслалі. Арышт былых паслоў „Грамады" й „Зма-

ганьня" пэўне таксама стаіць у сувязі з перасьледаваньням праціўнікаў рэформы.

Мэтаю гэтага нячуванага тэрору было прынучэньне (прымушэньне) беларускае стараны да прызнаньня накіненай 28.VIII.33 г. зьмены практычнае граматыкі беларускае.

* * *

Напасьледак, просьле грунтоўнага ачышчэньня ад беларускае „крамолы" поля барацьбы, маскоўская ўлада склікала ў палавіцы сьнежня 1933 г. ў Менску зборку літаратараў, жывучых у гэтым месьце. Зборка складалася ня толькі з літаратараў беларускіх, але таксама з пісьменьнікаў іншых нацыянальнасьцеў (Жыдоў і інш.), жывучых або часова прабываючых у Менску. Апрача таго зборка была папоўнена „навуковымі й іншымі працоўнікамі ідэолёгічнага фронту" („*Літаратура й Мастацтва*" № 33 з 1933 г.). Папоўненьне „зборкі пісьменьнікаў" няпісьменьнікамі ня было прыродным і мела наўвеце павялічэньне на зборцы ўрадовае стараны — прыхільнай рэформе.

З прозьвішчаў учасьнікаў гэтае зборкі, менаваных у менскай прэсе, відаць, што Беларусы ня былі на ёй у бальшыні. Апрача таго каля палавіцы беларускіх учасьнікаў (Зарэцкі, Маракоў, Хведаровіч і інш.) належылі да падсудных; дыкжэ іх на зборцы вінавацілі, а яны тым ці іншым спосабам выказавалі каяту й абяцаньне паправы. Да падсудных належыў такжа седзячы даўжэйшы час у турме П. Бузук, што быццам „прызнаў справядлівую крытыку ў друку ды ў рэфэраце тав. Александровіча сваіх абмылаў з прычыны буржуазнае контрэволюцыйнае дзейнасьці ягонае на языкаведным фронце *).

Беларуская часьць учасьнікаў зборкі дзяржалася даволі пасыўна. Затое прадстаўнікі жыдоўскія „ідэолёгічнага фронту" былі вельмі актыўнымі абароньнікамі рэформы. Выступалі яны як зусім компэтэнтныя ў справе беларускага языка ды рупныя аб „пролетарскай чысьціні" яго. Прыкл.: „Тав. Кучар задзержаваўся над не даволі вялікім ходаньням крытыкі за пролетарскую чысьціню языка ў літаратуры. — Пэсымістычны стыль, апяваньне якоесь абстрактнае „маці", пад каторай нацдэмы разумелі даўнейшую Беларусь, архаізмы, нацыянальная замкнутасьць былі ў некаторых пісьменьнікаў. Прыкл.—творы Віцьбічавы, Сымона Баранавых: „Матчын сын", „Межы", апошнія творы Я. Скрыгана... Адгэтуль зразумелыя ўсе тыя плёткі, што паўсталі каля рэформы правапісу".

Ведама, што „зборка пісьменьнікаў" выказалася за рэформаю і зганіла праціўнікаў ейных.

У вапошнім часе даходзяць ведамасьці з БСРР, што, каб прынучыць (прымусіць) беларускіх пісьменьнікаў выказацца за рэформаю, ужываецца там „конвоер".

Плян дзікога маскаленьня беларускага языка паўстаў у сувязі з маскаленьням радавае Беларусі наагул ды ў сувязі з перасьледаваньням сьвядомых Беларусаў. Відавочна гэта такжа із спосабаў перасьледаваньня праціўнікаў маскаленьня беларускае граматыкі. Гэтак, прыкладам, пішуць маскоўскія й абмаскалелыя комуністыя: „нацдэмы пераходзілі ўжо на найвышшую ступень контрэволюцыйнае дзеяльнасьці, пропануючы правядзеньне правапісу на лацініцу (Александровіч „*Літаратура й Мастацтва*" № 34 з 1933 г.). Мова тут аб пропозыцы групы ўчасьнікаў Навуковае Конфэрэнцы ў Менску 1926 г.

Можна мець розны пагляд на тое, які альфабэт — кірыліца ці лацініца — мае быць у Беларусаў *), але ня можна перасьледаваць (ды гэнак нягодна!) прыхільнікаў лацініцы (лацінскага альфабэту). Калі ўводзіцца лацініца ў Чувашоў, Мардвіноў, Буратаў і інш., дык гэта нормальна. Але Беларусам ня можна ў сябе аб гэтым навет гаманіць, пакуль у маскоўскім (расейскім) языццэ ўжываецца кірыліца. Калі-б аднак Маскалі ўвялі ў сябе лацініцу, тады было-б „найвышшай контрэволюцыйнай дзеяльнасьцяй" аставацца Беларусам пры кірыліцы.

„Нацдэмаў" вінавацяць, што „дамагаліся беларусізацы ладнае часьці Заходняе й Ленінградзкае краінаў" (там-жа) Трэба зацеміць, што краіна („область") т. зв. Заходняя складаецца блізу выключна з усходне-беларускіх земляў, ня прылучаных да БСРР, а да паўднёвай часьці краіны Ленінградзкае належаць так сама няпрылучаныя да БСРР беларускія часьці Пскоўшчыны ды паўночныя паветы Віцебшчыны.

А вось абвінавачаньне проф. П. Бузука: „Бузук улажыў лінгвістычныя карты Беларусі. На карце 9-ае асабліва выразна выступае прынцып нацдэмаў пашыраньня беларускіх асаблівасьцеў (языковых) вонках граніцы БСРР" (там-жа).

Навет найчыстшаму Маскалю, проф. Н. Дурнаво, закідаецца з гэтае прычыны беларускі шовінізм, бо „ён навет абвінаваціў Бузука ў тым, што той недаволі прыняў пад увагу пашырэньня дыялектаў беларускага языка вонках граніцаў Радавае Беларусі".

У сваёй рэцэнзіі „Спробаў лінгвістычнае географіі Беларусі" Бузука пісаў Дурнаво: „Гэткага агранічэньня прастору тым болей ня трэ было рабіць, што беларускі язык адно ў вапошнім часе дастаў правы грамадзянства ў літаратуры... Але прастор, пераз каторы праходзяць гэтыя граніцы, на карты Бузуковы ня ўведзены". Далей Дурнаво робіць вывад: „Атлас Бузукоў ня поўны: не абыймае ўсяго прастору беларускага ў граніцах СССР".

Наагул трэба сказаць, што ў БСРР вытварыўся такі шал перасьледаваньня ўсяго беларускага, што якая-колечы навуковая праца там на беларускія тэмы зусім немагчыма. Тое, што ў Маскве або ў Пецярбурзе друкуецца на беларускую тэму бяз жаднае ганы, у БСРР не дапушчаецца і срога за яго караюць. Прыкладам на парадку дня гэткага роду абвінавачаньні: „Імкнучыся давесьці „самабытны" характар сучаснага беларускага языка, нацдэмы пашыралі апытаньнік да зьбіраньня языковага матар'ялу (Александровіч „*Літ. й Маст.*" № 34 з 1933 г.).

---

*) У 1934 г. на зьезьдзе славянскіх філёлёгаў у Варшаве сябры зьезду ўкраінцы мне перадавалі, што П. Бузук ня вытрываў турэмных мучэньнеў і ў турме абліў цябе газаю ды падпаліў. Быў ён адратаваны, але просьле гэтага аднак страціў здольнасьць да навуковае працы.

*) Аўтар гэтае кніжачкі лічыць, што агульна-беларускім альфабэтам мае быць кірыліца („рускія" літары).

Напасьледак, трэба зацеміць аб адносінах да рэформы Беларусаў Заходняе Беларусі. Войстра яе тут зганілі, што выказалася ў прэсе, рэфэратах і рэзалюцах (Беларускага Навуковага Т-ва, Беларускага Нацыянальнага Комітэту, Т-ва Прыяцелеў Беларусаведы пры Унівэрсытэце Сьцяпана Батуры ў Вільні і інш.). Абаронькікаў самае рэформы ў Заходняй Беларусі нямашака, але ё такія, праўда іх надта мала, што з розных прычынаў, нямаючых нічагусенькі супольнага з дабром беларускага языка, ня выступаюць публічна проці яе або асьцярожна бароняць яе аўтараў.

## Языкаведны разбор рэформы.

Пад офіцыяльным назовам „*Рэформа беларускага правапісу*" запраўды праведзена зьмена ня толькі правапісу, але аднача сна й граматыкі беларускага языка. У дэкрэце аб рэформе, як асобны адзьдзел, пастаўлены зьмены ў галіне морфолёгіі. Гэных зьменаў морфолёгічных дэкрэт падае 6 (пункты 18—23 ўлучна) *). Але й тыя зьмены, што паданыя ў дэкрэце як зьмены „правапісу самагукаў", „правапісу сугукаў" і „правапісу чужых словаў", датычаць ня толькі правапісу, але адначасна правілаў граматычных, паймення фонэтычных. Вылучна з рэформаю правапісу маем дзела тады, калі зьмяняюцца толькі нормы правільнага пісаньня, але пакідаецца нязьмененым даўнейшы спосаб вымаўляньня. Дзе гэты варунак не дадзержаны, там маем дзела ня толькі із зьменаю правапісу, але таксама граматыкі практычнай, а навет наўперад граматыкі, бо рэформа правапісу будзе тады адно простай консэквэнцай зробленых зьменаў граматычных нормаў. З усіх 17-ёх зьменаў (запраўды 18, бо дзьве зьмены згорнены ў дэкрэце ў вадзін пункт) неморфолёгічных толькі адзін пункт 4-ты датычыць аднаго правапісу.

Дык рэформа захапіла 25 языковых асаблівасьцеў, з каторых у 24 прыпадках маем дзела адначасна з граматыкаю й правапісам, а толькі адна зьмена датычыць вылучна правапісу.

Прыступім да разгляданьня асобных зьменаў.

### Зьмены фонэтычныя.

У вадзьдзеле, паданым у дэкрэце пад назовам „Правапіс самагукаў" запраўды адно першыя два пункты датычаць самагукаў. У першым із іх уводзіцца правіла ўжываньня *я* на месцу этымолёгічнага ненацісьненага *е* толькі ў першым складзе перад націскам, а ў другім кажацца, што частка *ня* і прыймя *бяз*, калі яны ня прыстаўкі, трэба перадаваць пераз *е*. Ведама, што характар *ня* й *бяз* не мяняецца ад таго, ці яны зрасьліся з наступным словам ці не. Рэформа ўводзіць тут зусім штучнае, нічым не апраўданае адрозьневаньне. Чалавеку, недаволі азнаёмленаму з беларускім языком, зьмены, памешчаныя ў гэтых двух пунктах, могуць здавацца невялічкімі. Запраўды ёсьць

*) Запраўды морфолёгічных зьменаў ё 7, бо ў пункце 19-ым злучаны зьмены дзьвюх асаблівасьцеў: аддаляецца канчатак давальнага склону мн. л. — ом (адна зьмена) і канчатак меснага скл. мн. л. — ох (другая зьмена).



накш. Беларускі язык ня знае ненацісьненага *е*, замест каторага мае *а* ці нявыразны самагук рэдукаваны, напару навет *і*. Подле дагэтуль абавязуючых правілаў граматычных, гэтыя тры самагукі на месцу ненацісьненага этымолёгічнага *е* перадавалі на пісьме часткава пераз *я*, часткава пераз *е*, каторае трэ' было вымаўляць як *а* або нявыразны самагук рэдукаваны, або як *і*, а *е* націсьненае вымаўлялі як *е*, пісалі-ж пераз *ё*; трэба, праўда, прызнаць, што апошнюю літару з прычынаў тэхнічна-друкарскіх не заўсёды гэтак абазначалі ў друку. Уводзячы няіснуючы ў беларускім языцэ самагук — ненацісьненае *е*, рэформа нарушае прыроду беларускага вокалізму, адначасна ў вельмі вялікай ступені зьбліжаючы яго да вокалізму расейскага (літаратурнага). Гэткая рэформа не палягчыць беларускім масам „навучэньня беларускага пісьменства", што ё адным із яе офіцыяльных мотываў.

Пункт трэйці гэткі: „Перад пачатным націсьненым *о*, *у* заўсёды трэба пісаць *в* з выняткам назоваў географічных (*восень*, *вучань*, але *Орша*, *Ула*). Перад ненацісьненым *у* пісаць *в* трэба тады, калі гэтае *у* ня прыстаўка і не паўстала з *в* (*вучыцца*, але: *урад*, *улада*, *участак*)".

Тут трэба зацеміць, што перад ненацісьненым *у* ўжываецца ў некаторых прыпадках прыстаўное *в* і тады, калі *у* прыстаўка, прыкл.: *вуваль*, прыведзенае *вучастак*; таксама ё прыпадкі, калі ненацісьненае *у* карэннае ня мае прыстаўнога *в*, прыкладам: *наўчоны*. Прыпадкаў гэтых немагчыма абняць якім-колечы правілам. Дзеля таго яны цяжкія чужнікам, каторым рэформа робіць палёгку, выкідаючы гэтыя прыпадкі з беларускага языка. Але Беларус не патрабуе вучыцца гэтых прыпадкаў, знае іх з бязьлецтва разам із практычным уменьням роднае мовы. Наадварот, Беларусу спабыць гэтыя прыпадкі з прыстаўным *в* або без яго, ня маючых жаднага правіла, будзе надта цяжка. Разгляданая часьць гэтага пункту рэформы не палягчыць, але зробіць труднейшым беларускім дзяцём навучэньне гэтае штучна выкраенае асаблівасьці роднае мовы. Дык коштам вылучэньня з беларускага языка прыродных асаблівасьцеў ягоных здабыты толькі дыдактычныя перашкоды.

Рэформныя зьмены першае часьці 3-га пункту датычаць толькі географічных назоваў, бо астача гэтае часьці 3-га пункту (*в* перад націсьненым *о*, *у*) асталася подле дагэтулешняга ўжываньня. Асаблівасьці кажнага языка адбіваюцца такжа ў географічных назовах. Але дэкрэт аддаляе адбіцьцё беларускае вымовы ў географічных назовах беларускіх, паймення ня можна ўжываць у іх прыстаўнога *в* (замест, прыкладам, *Ворша*. *Войстрава*, *Вула* дэкрэт загадвае ўжываць *Орша*, *Ойстрава*, *Ула*) Гэта так якбы Палякі, вымаўляючы dąb, dąbrowa, często, będzie, былі прынучаны зваць свае месты — *Dubrowa*, *Czastochowa*, *Budzin* і да г. п. У п. 17 „рэформы" чытаем: „Чужыя йменыды чужыя назовы географічныя трэба пісаць із захаваньням асаблівасьці таго языка, з каторага яны паходзяць". Вось-жа гэтае права адняла рэформа ў Беларусаў у адносінах да іх роднага языка. Тут Беларус ня мае права прыймаць пад увагу асаблівасьці беларускага языка, але мусіць ужываць хвормы расейскія. Якая мэта таковай „рэформы"? Магчымыя адно дзьве мэты: 1) адняць ад географічных назоваў беларускіх іх беларускі характар; 2) палягчыць ураднікам,

тральнае гутаркі) — з двух нарэччаў беларускіх, бо язык літаратурны ё заўсёды ў большай або меншай меры амальгамаю народных нарэччаў. Нягледзячы на тое, што рыса гэтая ёсьць адначасна асаблівасьцяй мовы Менска — сталіцы радавае Беларусі — замяніла яе рэформа хвормаю на — *іце, ыце* (*глядзіце, бярыце*) - асаблівасьцяй нарэчча паўночна-ўсходняга, аднолькаваю з асаблівасьцяй расейскай.

Пункт апошні, уводзячы быццам у беларускі язык дзейную дзеяслоўную прымету цяперашняга часу (*гуляючыя* дзеці і пад.) запраўды нічагусенькі не рэформуе, бо менаваная дзеяслоўная прымета была ведамая й ужываная да „рэформы" (праўда Б. Тарашкевіч яе не падаваў).

* * *

Чаго дапяла „рэформа" коштам вялізарных спустошаньнеў у граматыццы беларускага языка? Як мы бачылі, не палягчыла яна народным масам навучэньне граматыкі й правапісу беларускага языка. Наадварот, цяпер гэты народ, каб навучыцца „папраўленую" рэформаю беларускую граматыку й правапіс, мусіць уперад ладне навучыцца парасейску. Праўда, палягчыла „рэформа" беларускую граматыку расейскім урaднікам у Беларусі. Але лішняя аб гэтым рупнасьць. Гэныя ўраднікі ня гэтулькі наіўныя, каб у часе, калі магчымыя такія „рэформы", яшчэ вучыцца беларускага языка. Напасьледак, не заўсёды гэта бясьпечна, калі нат прыродныя Расейцы не забясьпечаны ад абвінавачаньня іх у беларускім шовінізьме, як гэта сталася з проф. Н. Дурнавом.

Затое „рэформа" адказуе другой мэце, афіцыяльна выказанай у самым дэкрэце аб рэформе — аддаленьню „бар'еру" паміж беларускім і расейскім языкамі, каторы быццам штучна стварылі беларускія „нацдэмы". Мы бачылі, што „рэформа" сыстэматычна ймкнецца да аддаленьня гэтага бар'еру, але бар'еру ня штучна створанага Беларусамі, а прыроднага, паўсталага здаўна дарогаю прыроднага развою беларускага й расейскага языкоў, як языкоў апрычоных. Аддаленьне гэтага прыроднага бар'еру магчыма толькі пры помачы маскаленьня беларускага языка, да чаго „рэформа" ймкнецца [1]). Гэта яе адзіная мэта.

„Рэформа" мае характар гаспадарсьцьвены, абавязуючы ўсіх грамадзян БСРР. Няўжываньне „рэформаванае" граматыкі й правапісу ў БСРР, ня кажучы ўжо аб тым, што наагул немагчыма „рэформы" абмінуць, бо ўсе выдавецтвы й школы ў Радах толькі гаспадарсьцьвеныя, найсражэй караецца. Гісторыя сьвету вельмі рэдка зазначае прыпадкі такога бязуважнага й дзіка-грубога мяшаньня чужога ўраду да найбалей нутранога жыцьця культурнага сваіх падданьнікаў, якім ё карыстаньне роднай моваю. Прынуканьне калісь у XIX в. Ліцьвіноў ужываць кірыліцу ў літоўскай мове было рэчай вонкавай і драбной у прыраўнаньню з цяперашнім маскаленьням беларускага языка.

---

[1]) Пры разбору асобных пунктаў дэкрэту аб „рэформе" можна было заценіць, што зьмешчаныя ў „рэформе" некаторыя зьмены граматычных нормаў прыбліжаюць беларускую граматыку ня толькі да языка расейскага, але такжа да некаторых іншых языкоў славянскіх. Аднак трэба памятаваць, што зблізаньне да іншых языкоў славянскіх ня мае практычнага значэньня, бо няма ўплыву гэтых языкоў у БСРР. Апрача таго адно некаторыя зьмены „рэформы" збліжаюць граматыку беларускую да граматыкаў іншых языкоў славянскіх, калі тымчасам усе зьмены збліжаюць або — яшчэ часьцей — проста ўпадабляюць шмат граматычных асаблівасьцеў беларускіх із граматычнымі асаблівасьцьмі языка расейскага.